№26 ЛЮТЫ 2013

# Настаўнік. info

ІНФАРМАЦЫЙНА-МЕТАДЫЧНЫ БЮЛЕТЭНЬ ДЛЯ НАСТАЎНІКАЎ

ТЭМА НУМАРУ:
ДЗЕНЬ РОДНАЙ МОВЫ



## Тэма нумару: ДЗЕНЬ РОДНАЙ МОВЫ




# ДЗЕНЬ РОДНАЙ МОВЫ: ЯК СВЯТКУЕМ, ТАК ЖЫВЕМ

***Тамара Мацкевіч***

21 лютага прайшоў міжнародны Дзень роднай мовы, які быў абвешчаны на 30-й сесіі ЮНЕСКА на прапанову Бангладэш у 1999 годзе. Адзначаецца ён дзеля заахвочвання лінгвістычнай разнастайнасці і шматмоўнай адукацыі, а таксама спрыяння ўсведамленню моўных і культурных традыцый, якія грунтуюцца на ўзаемаразуменні, талерантнасці і дыялогу. Дзень святкавання – 21 лютага – быў абраны таму, што ў гэты дзень у 1952 годзе загінулі пяць студэнтаў, якія змагаліся за наданне мове бангла статусу дзяржаўнай у тагачасным Пакістане, усходняя частка якога пазней стала незалежнай дзяржавай Бангладэш.

Святкаванне Дня роднай мовы ў Беларусі заўсёды нагадвае сюррэлістычную карціну, калі змешваюцца сон і рэальнасць: ажываюць

падсвядомыя фантазіі, вылазяць навонкі комплексы, у выглядзе пачвараў матэрыялізуюцца страхі. Адны ў гэты дзень пачынаюць хваліцца, як у нас усё добра: ёсць школы, канстытуцыя, раўнапраўе моваў, права выбару – ну чым не фэнтэзі! Другія, стомленыя ў чаканні перамог, падстройваюць свае погляды пад іншую ідэалогію: маўляў, засядзеліся мы па нацыянальных кватэрах, трэба мацаваць славянскае (паўночнае, манархічнае, мультыкультурнае, ліцьвінскае, еўразійскае... – спіс можна доўжыць) адзінства і будаваць новы свет з новымі перспектывамі... Ну а каб будаваць, трэба спачатку «до основанья, а затем». Лузеры, перароблены ў патэнцыйных пераможцаў, выглядаюць яшчэ больш страшна. Яны падобныя да зомбі з выдзеўбанымі вачыма. Чорт іх бяры – гэта ж толькі закон жанру.

Але ў любой карціне, нават самай сюррэалістычнай, заўсёды ёсць праўдзівы мазок пэндзля.

21 лютага ў Дзень роднай мовы быў суд над вядомым скульптарам Гэнікам Лойкам. Напярэдадні Гэнік даведаўся, што нядаўна ў статут гімназіі, дзе вучыцца ягоны сын, былі ўнесеныя змены, якія фактычна ліквідуюць яе статус як беларускамоўнай. Судзілі яго за тое, што зрабіў плакат «Віншую з міжнародным днём абароны роднай мовы!» і ўласна віншаваў настаўнікаў і дзяцей, якія ішлі ў школу. У школе ў гэты час адбывалася святкаванне з нагоды Дня роднай мовы :). Суддзя Людміла Лаппо прызнала віншаванні і заклікі гаварыць па-беларуску «лозунгами, подрывающими доверие к государственной власти», а самога Гэніка – незаконным пікетоўцам і прысудзіла яму 5 сутак.

Уласна, самы гуманны суд ў свеце мала чым можа здзівіць. Але здзівіў. Суддзя не магла стрымацца і парушала ўсе нормы закону і маралі. Адхіліла просьбу Гэніка пачуць дзяржаўную мову ў судзе хаця б на свята роднай мовы, не дазволіла запрасіць перакладчыка, забараніла адвакатцы апытаць сведку толькі таму, што тая збіралася рабіць гэта па-беларуску... Такія паводзіны суддзі і пагарду ў вачах немаладой жанчыны цяжка ўявіць у самым страшным фільме жахаў. Але гэта не сюррэалізм, гэта і ёсць тая рэчаіснасць, у якой мы жывем.

А дзе ж самі носьбіты мовы? Дзе мы – настаўнікі, дзе дзеці? Дзе беларусы? Як заўсёды, ў партызанах, у падполлі. Здаецца, ужо не для таго, каб выжыць, але па звычцы хаваемся, каб сваёй прысутнасцю не раздражняць дурняў, зомбі і цётак з фільмаў жахаў, якія распладзіліся і пануюць на нашай зямлі. Можа нам пакуль не да святаў, але настаў час не баяцца, што мы папсуем іх «святочную» карціну.

# МЫ ЗА ВЫКЛАДАННЕ ГІСТОРЫІ І ГЕАГРАФІІ БЕЛАРУСІ ПА-БЕЛАРУСКУ!

На рэсурсе change.org ідзе збор подпісаў пад зваротам да Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь наконт вяртання абавязковага выкладання гісторыі і геаграфіі Беларусі па-беларуску.

Катастрафічны стан нацыянальнай мовы праяўляецца (сярод іншага) і ў тым, што абсалютная большасць школьнікаў не толькі не могуць размаўляць на беларускай мове, але нават і не разумеюць яе, кажа ініцыятарка звароту, гродзенская выкладчыца і маці двух сыноў Іна Соркіна.

Далучыць свой голас на карысць выкладання гісторыі і геаграфіі Беларусі па-беларуску можна на http://chn.ge/YwWBqV



change.org Start a petition Browse Search

Petitioning Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь

Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь: Вярніце абавязковае выкладанне гісторыі і геаграфіі Беларусі па-беларуску

Petition by
Ina Sorkina
Grodna, Belarus

Катастрафічны стан нацыянальнай мовы праяўляецца (сярод іншага) і ў тым, што абсалютная большасць школьнікаў не толькі не могуць размаўляць на беларускай мове, але нават і не разумеюць яе.

Сергей Волчкевич Дятлово, BELARUS 25 days ago · Liked 2
Каб людзьмі звацца...

Ігар Грабянчук Бобруйск, BELARUS about 1 month ago · Liked 2
Не можа быць сапраўднага росквіту Беларусі без росквіту беларускай мовы!

Крысціна Вітушка MINSK, BELARUS about 1 month ago · Liked 2
У пачатку 90-ых я вучылася ў рускамоўнай ганізоннай школе ў Латвіі. Але літаратура, гісторыі і геаграфія Латвіі выкладаліся па-латышску. Гэта было па-за абмеркаваннямі, таму што гэта - нармальна, як закон прыроды. Калі ласка, перачытайце Талстова і Ушынскага - усё тое, што яны пісалі пра родную мову. Беларуская школа павінна быць беларускай, інакш яна не школа, а бардэль, а мінадукацыі варта пасадзіць за педафілію замест педагогікі

Наталля Казлоўская Гродно, BELARUS 25 days ago · Liked 1
Мова - тое, без чаго чалавек не можа быць патрыётам сваёй краіны, бо калі ён лепш успрымае чужынскую мову, чымся сваю, то ён гэтак жа лепш успрымае і чужынскую культуру, чужынскую гісторыю, чужынскі светапогляд за наш,беларускі. А калі так, то ў яго ўзнікае жаданне з'ехаць з Беларусі. А калі будуць ад'язджаць людзі, дык што стане з краінай?..

# МОЎНАЯ СІТУАЦЫЯ Ў МІНСКАЙ ГІМНАЗІІ № .– У ЦЭНТРЫ ЎВАГІ ТБШ

19 студзеня 2013 г. адбылося чарговае паседжанне Канцылярыі Таварыства беларускай школы. На паседжанні былі папярэдне абмеркаваныя вынікі працы Таварыства ў 2012 годзе, планы стварэння новых суполак ТБШ. Але асноўным пунктам абмеркавання стала праўная і фактычная сітуацыя навучання па-беларуску ў гімназіі № 4 г. Мінска.

На паседжанні выступіў прадстаўнік бацькоў беларускамоўных вучняў гімназіі, вядомы скульптар Гэнік Лойка. Ён паведаміў пра змены ў статуце навучальнай установы, паводле якіх колішняя Мінская беларуская нацыянальная гімназія № 4 больш не лічыцца гімназіяй з беларускаю мовою навучання: «Асноўнымі мовамі навучання і выхавання ва ўстанове з’яўляюцца беларуская і руская» (пункт 3.2). Як паведаміў Г.Лойка, ён спрабаваў высветліць, калі і кім былі ўнесеныя змены ў статут гімназіі, якія дазваляюць паступова ператварыць яе ў рускамоўную, падчас сустрэчаў з дырэктарам гімназіі Ю. Бандарэнкам і намеснікам міністра адукацыі В. Якжыкам. Але спробы былі марныя: бацьку школьніка адсылалі да Кодэкса аб адукацыі, не адказаўшы на пытанне пра статут канкрэтнай школы.

Г. Лойка таксама ўзняў пытанне аб прафесійнай прыдатнасці педагогаў і супрацоўнікаў гімназіі № 4. На ягоную думку, нямала з іх не валодае беларускаю мовою, а тыя, хто валодае, абмяжоўваюцца яе ўжываннем толькі ў часе ўрокаў. Гэта зніжае статус беларускай мовы ў сценах школы, пагаршае якасць адукацыі.

Г. Лойка звярнуўся да Таварыства беларускай школы з просьбай зрабіць захады дзеля абароны канстытуцыйнага права ягоных ды іншых дзяцей на якасную беларускамоўную адукацыю.

Сябры Канцылярыі абмеркавалі праблему. Яны нагадалі, што адпаведна арт. 90 Кодэкса аб адукацыі грамадзянам Беларусі забяспечваецца права навучацца па-беларуску ва ўстановах адукацыі з беларускай мовай адукацыі і выхавання. З гледзішча лінгвадыдатыкі ў школах, якія лічацца беларускамоўнымі, неабходна ствараць паўнавартаснае моўнае асяроддзе як для ўрочнай, так і для пазаўрочнай працы, а таксама для ўсіх кантактаў з навучэнцамі ў будынку школы.

Канцылярыя ТБШ прыняла наступныя рашэнні:

1) накіраваць у Міністэрства адукацыі запытанне пра юрыдычную аснову працэдуры надання ўстановам адукацыі статусу беларускамоўных або рускамоўных і кантролю за адпаведнасцю гэтаму статусу;

2) накіраваць дырэктару гімназіі № 4 Ю. Бандарэнку запыт пра тое, якая на гэты момант мова навучання ў гімназіі (паводле арт. 90 Кодэксу аб адукацыі);

3) выпрацаваць свае прапановы аб уключэнні ў спіс кваліфікацыйных патрабаванняў да педагогаў ды іншых супрацоўнікаў беларускамоўных устаноў адукацыі абавязковага практычнага валодання беларускаю мовою, а таксама выпрацаваць дэталізаваны праект крытэраў моўнай кампетэтнасці педагога і падаць яго ў Міністэрства адукацыі, Міністэрства працы ды іншыя зацікаўленыя ведамствы.

# «БЕЛАРУСКАЕ ПЯЦІБОРСТВА – XII»: МОВАЙ ТВАЁЙ ЖЫВУ!

***Міхась Булавацкі***

23 школьнікі розных класаў з розных гарадоў і вёсак сядзяць ва ўніверсітэцкай аўдыторыі, думаюць і нешта пішуць. Што адбываецца? – Ідзе працэс «беларусізацыі».

Гэтыя школьнікі сабраліся на «Беларускае пяціборства». Яны маюць высокія адзнакі па беларускай мове і звыклі лічыць, што гэтай мовай больш-менш прыстойна валодаюць. Ім прапануецца развязаць нескладаную матэматычную задачу і адказаць на пытанні з фізікі. І раптам (!) яны ўсведамляюць, што для выказвання сваіх думак у іх не хапае слоў. Яны проста не ведаюць, як назваць сваёй мовай той ці іншы панятак з матэматыкі-фізікі. Не ведаюць таму, што ім пра гэта настаўнікі не казалі.

Школьнікі не вінны ў сваім няведанні. Тады хто? Настаўнікі? Але ж настаўнік беларускай мовы і не павінен займацца з сваімі вучнямі матэматычнай тэрміналогіяй. А настаўніку матэматыкі міністэрства адукацыі не ўмяніла ў абавязак паведамляць сваім вучням, як гучаць матэматычныя тэрміны на беларускай мове. Шмат чаго ўмяніла ў абавязак: правільную форму падпісвання і шырыню палёў у сшытках, гарызантальна пісаць ці вертыкальна, дату дамашняй працы ды іншае, ды іншае – а вось гэтага не ўмяніла. Міністэрства нават пагрэбавала прапановай адной вядомай прафесаркі друкаваць у рускамоўным падручніку



*Арганізатар «Беларускага пяціборства» Міхась Булавацкі*

невялічкія руска-беларускія слоўнікі адмысловых тэрмінаў, у гэтым падручніку скарыстаных. Не патрэбна!

На думку міністэрскіх розумаў, выпускніку беларускай школы (хай сабе і рускамоўнай) не патрэбна ведаць беларускую мову ў поўным



*Удзельнікі «Беларускага пяціборства – XII»*

аб'ёме. Ёсць нейкі нацыянальны бэйсік – і досыць! Міністэрства тут нават пярэчыць Прэзідэнту, які абвесціў, што «пытанне мовы ў нас вырашана раз і назаўсёды». А як вырашана? На роўных! Але міністэрству вынікі рэфэрэндуму не падабаюцца, і яно робіць адну мову раўнейшай за другую.



*Пераможцы «Беларускага пяціборства – XII»*

Для некага з тых дваццаці трох усведамленне сваёй моўнай абмежаванасці стане маленькім шокам, і нехта з іх паспрабуе хаця б крыху выправіць гэтую хібу сваёй адукацыі. Паспрабуе! І выправіць! Сам!! Без настаўніка, без міністэрства! Канечна, не ўсе. І нават не палова. Няхай такіх будзе два-тры чалавекі. Але яны будуць. Ведаю, што кажу, бо пяціборства праводзіцца ўжо дванаццаты раз. Праводзіцца дзеля тых двух-трох чалавек.

Далей яны чытаюць тэкст. У тэксце распавядаецца пра нейкага Ігната Дамейку, багатага пана, да таго ж і разумнага, бо яшчэ і «магістр матэматыкі», які, пачуўшы пра пачатак паўстання, кідае свой маёнтак, усё сваё багацце і далучаецца да паўстанцаў, а калі паўстанне задушана царскімі войскамі, уцякае ў Парыж, а потым чамусьці яшчэ далей, на другі канец свету, у Чылі… Ім прапануецца знайсці моўныя памылкі, раскіданыя ў гэтым тэксце, памылкі, якія найчасцей робяць яны самі. Але памылкі вышукваюцца цяжка не толькі з-за гэтага, а яшчэ і з-за таго, што тэкст цікавы. Думкі не пра памылкі, думкі пра іншае. Чаго гэтаму пану не сядзелася ў сваім маёнтку? Чаго яму не хапала?! Супраць чаго паўстаў?.. Доўгія гады працаваў на рэспубліку Чылі і марыў вярнуцца ў родную Літву. З-за гэтай мары доўга не жаніўся, але ўсё ж у 38 год, будучы прафесарам першага чылійскага ўніверсітэта, ажаніўся на пятнаццацігадовай Генрывеце… Ім яшчэ не рэжа слых гэтае вульгарнае расійскае «на» («Иван женился на Гале» – што ён зрабіў на Галі?) і яны хутчэй не пакажуць гэта як памылку. Бо ім цікава: а што далей? А далей нічога, тут тэкст заканчваецца. Што сталася з гэтым Ігнатам у той далёкай краіне? Пытанне павісае. І, вярнуўшыся дадому, ці не кінецца хто з іх да кампутара, каб пашукаць звесткі пра таго дзівака Дамейку? Калі гэта зробіць хаця б адзін з дваццаці трох, то наша мэта дасягнута. Але мне чамусьці думаецца, што такіх будзе болей…

Паўтары гадзіны ціхай працы. 23 школьнікі розных класаў з розных гарадоў і вёсак сядзяць ва ўніверсітэцкай аўдыторыі, думаюць і нешта пішуць. Зноў думаюць…

Пройдуць паўтары гадзіны. Разбягуцца яны па сваіх дамах. А праз некаторы час у тыя дамы паштальёны прынясуць лісты з паведамленнямі аб выніках іх удзелу ў беларускім пяціборстве. Акрамя тых паведамленняў у лістах будзе іншы тэкст, які, магчыма, закончыцца такімі словамі: … Беларусь ціха чакае, пакуль ты, яе сын, успомніш пра маці сваю, павернешся да яе тварам і спытаеш: «Маці! Што трэба, каб ты жыла?» І Яна выдыхне доўгатрыманае: «Мова! Я жыву тваёй мовай.» І аднекуль данясецца голас Максіма Багдановіча: «Пачуйце жа гэта! Пачуйце!! Хто можа з вас сэрцам чуваць...

*Віншуем вучаніцу бабруйскай гімназіі №3 Ангеліну Жыркевіч з перамогай у інтэлектуальным спаборніцтве для школьнікаў «Беларускае пяціборства – XII»! Падрабязныя вынікі і заданні сёлеташняга «Пяціборства» глядзіце на http://nastaunik.info/news/?id=7497*

# ДЗЕ Ў МІНСКУ МОЖНА ВУЧЫЦЦА ПА-БЕЛАРУСКУ?

## МІНСКІЯ ЎСТАНОВЫ АДУКАЦЫІ, ЯКІЯ ПРАПАНУЮЦЬ НАВУЧАННЕ НА БЕЛАРУСКАЙ МОВЕ

**ДЗЯРЖАЎНАЯ ЎСТАНОВА АДУКАЦЫІ «ГІМНАЗІЯ № 4 Г. МІНСКА»**

**Адрас:** 220017, Мінск, вул. Кунцаўшчына, 18 (Фрунзенскі раён)

**Дырэктар:** Юрый Міхайлавіч Бандарэнка

**Тэлефон:** (017) 315-33-82, 258-49-74

**E-mail:** gymn4@minsk.edu.by

**Сайт:** http://gymn4.minsk.edu.by/

**Моўны статус** паводле статута або афіцыйнай інфармацыі:

*3.2. Асноўнымі мовамі навучання і выхавання ва ўстанове з'яўляюцца беларуская і руская.*

*3.32. Асноўная мова навучання і выхавання – беларуская.*

http://gymn4.minsk.edu.by/ru/sm_full.aspx?guid=5963

**ДЗЯРЖАЎНАЯ ЎСТАНОВА АДУКАЦЫІ «ГІМНАЗІЯ № 7 Г. МІНСКА»**

**Адрас:** 220088, Мінск, вул. Захарава, 58 (Партызанскі раён)

**Дырэктар:** Ларыса Леанідаўна Смагіна

**Тэлефон:** (017) 294-16-23

**E-mail:** gymn7@minsk.edu.by

**Сайт:** http://gymn7.minsk.edu.by/

**Моўны статус** паводле статута або афіцыйнай інфармацыі:

*В гимназии преподавание ведется на белорусском и русском языках.*

http://gymn7.minsk.edu.by/

**ДЗЯРЖАЎНАЯ ЎСТАНОВА АДУКАЦЫІ «ГІМНАЗІЯ № 9 Г. МІНСКА»**

**Адрас:** 220090, Мінск, вул. Сядых, 10 (Першамайскі раён)

**Дырэктар:** Аляксандра Аляксандраўна Аляксеева

**Тэлефон:** (017) 283-04-21, 281-38-04

**E-mail:** gymn9@minsk.edu.by

**Сайт:** http://gymn9.minsk.edu.by

**Моўны статус** паводле статута або афіцыйнай інфармацыі:

*Дзяржаўная ўстанова адукацыі «Гімназія № 9 г. Мінска» з беларускай мовай навучання запрашае ў 1 клас дзяцей, якім на 01.09.2012 споўніцца 6 і больш гадоў…*

http://gymn9.minsk.edu.by/ru/main.aspx?guid=1231

**ДЗЯРЖАЎНАЯ ЎСТАНОВА АДУКАЦЫІ «ГІМНАЗІЯ № 14 Г. МІНСКА»**

**Адрас:** 220107, Мінск, вул. Васняцова, 10 (Заводскі раён)

**Дырэктар:** Марыя Іванаўна Гарохава

**Тэлефон:** (017) 295-01-33, 295-21-31

**E-mail:** gymn14@minsk.edu.by

**Сайт:** http://gymn14.minsk.edu.by/

**Моўны статус** паводле статута або афіцыйнай інфармацыі:

*Дзяржаўная ўстанова адукацыі «Гімназія № 14 г. Мінска» прапануе: выкладанне ўсіх прадметаў на беларускай мове…*

http://gymn14.minsk.edu.by/main.aspx?guid=7583

**ДЗЯРЖАЎНАЯ ЎСТАНОВА АДУКАЦЫІ «ГІМНАЗІЯ З БЕЛАРУСКАЙ МОВАЙ НАВУЧАННЯ № 23 Г. МІНСКА»**

**Адрас:** 220005, Мінск, пр. Незалежнасці, 45 (Савецкі раён)

**Дырэктар:** Ніна Іванаўна Нікіціна

**Тэлефон:** (017) 284-47-62, 284-87-16

**Сайт:** http://gymn23.minsk.edu.by/

**E-mail**: gymn23@minsk.edu.by

**Моўны статус** паводле статута або афіцыйнай інфармацыі:

*11. Навучанне, выхаванне, справаводства ў гімназіі вядзецца на беларускай мове.*

http://gymn23.minsk.edu.by/ru/main.aspx?guid=1351)

**ДЗЯРЖАЎНАЯ ЎСТАНОВА АДУКАЦЫІ «ГІМНАЗІЯ № 28 Г. МІНСКА»**

**Адрас:** 220085, Мінск, пр. Ракасоўскага, 93 (Ленінскі раён)

**Дырэктар:** Ніна Аляксандраўна Лазоўская

**Тэлефон:** (017) 248-32-02, 248-12-64

**E-mail**: gymn28@minsk.edu.by

**Сайт:** http://gymn28.minsk.edu.by

**Моўны статус** паводле статута або афіцыйнай інфармацыі:

*3.9. Асноўная мова навучання і выхавання – беларуская.*

*3.10. Па рашэнні заснавальніка, з улікам магчымасцяў установы, могуць адкрывацца класы з рускай мовай навучання і выхавання.*

http://gymn28.minsk.edu.by/sm.aspx?guid=3583

**ДЗЯРЖАЎНАЯ ЎСТАНОВА АДУКАЦЫІ «ГІМНАЗІЯ № 32 Г. МІНСКА»**

**Адрас:** 220082, Мінск, вул. Д.Сердзіча, 26 (Фрунзенскі раён)

**Дырэктар:** Алена Аляксандраўна Кісялёва

**Тэлефон:** (017) 255-33-27, 255-03-75

**E-mail**: gymn32@minsk.edu.by

**Сайт:** http://gymn32.minsk.edu.by/

**Моўны статус** паводле статута або афіцыйнай інфармацыі:

*3.2. Основными языками обучения и воспитания в учреждении являются белорусский и русский.*

*3.27. Основной язык обучения и воспитания – русский.*

http://gymn32.minsk.edu.by/main.aspx?guid=8093

**ДЗЯРЖАЎНАЯ ЎСТАНОВА АДУКАЦЫІ «ГІМНАЗІЯ № 38 Г. МІНСКА»**

**Адрас:** 220141, Мінск, вул. Шугаева 15/1 (Першамайскі раён)

**Дырэктар:** Галіна Людвігаўна Злобіч

**Тэлефон:** (017) 260-72-01, 260-68-03, 260-69-41, 260-69-71

**E-mail**: gymn38@minsk.edu.by

**Сайт:** http://gymn38.minsk.edu.by

**Моўны статус** паводле статута або афіцыйнай інфармацыі:

*Предлагается обучение на белорусском и русском языках.*

http://gymn38.minsk.edu.by/ru/main.aspx?guid=1231

**ДЗЯРЖАЎНАЯ ЎСТАНОВА АДУКАЦЫІ «ЛІЦЭЙ БЕЛАРУСКАГА ДЗЯРЖАЎНАГА ЎНІВЕРСІТЭТА»**

**Адрас:** 220030, Мінск, вул. Ульянаўская, 8

**Дырэктар:** Вадзім Эдвардавіч Матуліс

**Тэлефон:** 209-52-65, 226-00-50

**E-mail**: info@lyceum.by

**Сайт:** http://www.lyceum.by/

**Моўны статус** паводле статута або афіцыйнай інфармацыі:

*4.4. Обучение и воспитание в Учреждении ведется на белорусском и русском языках.*

http://www.lyceum.by/pages.aspx?pageid=24&subpageid=49

**ДЗЯРЖАЎНАЯ ЎСТАНОВА АДУКАЦЫІ «ГІМНАЗІЯ-КАЛЕДЖ МАСТАЦТВАЎ ІМЯ І.В.АХРЭМЧЫКА»**

**Адрас:** 220114, Мінск, вул. Макаёнка, 14

**Дырэктар:** Людміла Мікалаеўна Шахава

**Тэлефон:** (017) 267-26-72, 267-20-75, 267-12-74, 267-11-84

**E-mail**: rki@mail.by

**Сайт:** http://gki.far.ru

**Моўны статус** паводле статута або афіцыйнай інфармацыі:

*21. Основными языками обучения являются белорусский и русский в соответствии с законодательством Республики Беларусь.*

http://gki.far.ru/doc/ustav.doc

*Обучение в гимназии ведется на белорусском языке.*

*Обучение в колледже ведется на белорусском языке.*

http://gki.far.ru/rules.htm

**ДЗЯРЖАЎНАЯ ЎСТАНОВА АДУКАЦЫІ «РЭСПУБЛІКАНСКАЯ ГІМНАЗІЯ-КАЛЕДЖ ПРЫ БЕЛАРУСКАЙ ДЗЯРЖАЎНАЙ АКАДЭМІІ МУЗЫКІ»**

**Адрас:** 220030, Мінск, пл. Свабоды, 7

**Дырэктар:** Андрэй Яўгенавіч Калядзіч

**Тэлефон:** (017) 203 60 33

**E-mail**: info@rmcollege.by

**Сайт:** http://www.rmcollege.by/

**Моўны статус** паводле статута або афіцыйнай інфармацыі:

*21. Основными языками обучения в гимназии-колледже являются белорусский и русский.*

http://www.rmcollege.by/htmls/about_college/ustav.pdf

**УСТАНОВА АДУКАЦЫІ «МІНСКАЯ ДЗЯРЖАЎНАЯ ГІМНАЗІЯ-КАЛЕДЖ МАСТАЦТВАЎ»**

**Адрас:** 220002, Мінск, вул. Камуністычная, 52

**Дырэктар:** Лілія Аляксееўна Міцура

**Тэлефон:** (017) 286-78-18, 286-78-17

**E-mail**: gki@minsk.edu.by

**Сайт:** http://gki.minsk.edu.by

**Моўны статус** паводле статута або афіцыйнай інфармацыі:

*3.2. Основными языками обучения и воспитания в учреждении являются белорусский и русский.*

http://gki.minsk.edu.by/ru/sm.aspx?guid=4703

**УСТАНОВА АДУКАЦЫІ «МІНСКІ ДЗЯРЖАЎНЫ ПРАФЕСІЙНЫ ЛІЦЭЙ № 2 ЛЁГКАЙ ПРАМЫСЛОВАСЦІ»**

**(«МІНСКІ ДЗЯРЖАЎНЫ ЛІЦЭЙ № 2 ЛЁГКАЙ ПРАМЫСЛОВАСЦІ»)**

**Адрас:** 220028, Мінск, вул. Маяковского, 123

**Дырэктар:** Марына Браніславаўна Мушніцкая

**Тэлефон:** (017) 223-37-10, 223-36-02, 223-36-16, 223-03-20, 223-21-04

**E-mail**: licey2@minsk.edu.by

**Сайт:** http://licey2.minsk.edu.by

**Моўны статус** паводле статута або афіцыйнай інфармацыі:

*3.2. Основными языками обучения и воспитания в учреждении образования являются белорусский и русский.*

http://licey2.minsk.edu.by/main.aspx?guid=6103

**УСТАНОВА АДУКАЦЫІ «МІНСКІ ДЗЯРЖАЎНЫ ПРАФЕСІЙНА-ТЭХНІЧНЫ КАЛЕДЖ КУЛІНАРЫІ»**

**Адрас:** 220021, Мінск, пр. Партызанскі, 70-а

**Дырэктар:** Тамара Михайлаўна Даліннік

**Тэлефон:** (017) 295-02-04, 295-02-03

**E-mail**: ptk-kulinarii@minsk.edu.by

**Сайт:** http://ptk-kulinarii.minsk.edu.by/

**Моўны статус** паводле статута або афіцыйнай інфармацыі:

*3.2. Основными языками обучения и воспитания в учреждении являются белорусский и русский.*

http://ptk-kulinarii.minsk.edu.by/sm_full.aspx?guid=10473

**ДЗЯРЖАЎНАЯ ЎСТАНОВА АДУКАЦЫІ «СЯРЭДНЯЯ ШКОЛА № 21 ІМЯ М.Ф.ГАСТЭЛА Г. МІНСКА»**

**Адрас:** 220029, Мінск, вул. Куйбышава, 19 (Цэнтральны раён)

**Дырэктар:** Андрэй Валер’евіч Стрыгельскі

**Тэлефон:** (017) 284-75-82, 288-22-21

**E-mail**: sch21@minsk.edu.by

**Сайт:** http://sch21.minsk.edu.by

**Моўны статус** паводле статута або афіцыйнай інфармацыі:

*3.2. Основными языками обучения и воспитания в учреждении являются белорусский и русский.*

http://sch21.minsk.edu.by/ru/main.aspx?guid=1251

**ДЗЯРЖАЎНАЯ ЎСТАНОВА АДУКАЦЫІ «СЯРЭДНЯЯ ШКОЛА № 37 Г. МІНСКА»**

**Адрас:** 220053, Минск, Старавіленскі тракт, 30

**Дырэктар:** Уладзімір Уладзіміравіч Муха

**Тэлефон:** (017) 288-02-63

**E-mail**: sch37@minsk.edu.by

**Сайт:** http://sch37.minsk.edu.by

**Моўны статус** паводле статута або афіцыйнай інфармацыі:

*Язык обучения: белорусский и русский (по желанию родителей).*

http://sch37.minsk.edu.by/ru/main.aspx?guid=1041

*20. Обучение в Школе осуществляется на русском и белорусском языке.*

http://sch37.minsk.edu.by/ru/main.aspx?guid=1601

**ДЗЯРЖАЎНАЯ ЎСТАНОВА АДУКАЦЫІ «СЯРЭДНЯЯ ШКОЛА № 60 Г. МІНСКА»**

**Адрас:** 220036, Мінск, вул. К. Лібкнехта, 82 (Маскоўскі раён)

**Дырэктар:** Ліліяна Мікалаеўна Бубен

**Тэлефон:** (017) 208-57-54, 208-94-49, 208-69-74

**E-mail**: sch60@minsk.edu.by (для афіцыйнай карэспандэнцыі), sch60rbminsk@tut.by

**Сайт:** http://sch60.minsk.edu.by/

**Моўны статус** паводле статута або афіцыйнай інфармацыі:

*1.10. Асноўная мова навучання і выхавання - беларуская. Па рашэнню заснавальніка, з улікам пажаданняў навучэнцаў (законных прадстаўнікоў непаўналетніх навучэнцаў) і магчымасцей школы, могуць адкрывацца класы з рускай мовай навучання і выхавання.*

http://sch60.minsk.edu.by/ru/main.aspx?guid=1211

**ДЗЯРЖАЎНАЯ ЎСТАНОВА АДУКАЦЫІ «СЯРЭДНЯЯ ШКОЛА № 71 Г. МІНСКА»**

**Адрас:** 220108, Мінск, вул. Каржанеўскага, 29

**Дырэктар:** Наталля Казіміраўна Буркевіч

**Тэлефон:** (017) 278-13-61

**E-mail**: sch71@minsk.edu.by

**Сайт:** http://sch71.minsk.edu.by/

**Моўны статус** паводле статута або афіцыйнай інфармацыі:

*3.3. Основными языками обучения и воспитания в учреждении являются белорусский и русский.*

http://sch71.minsk.edu.by/sm_full.aspx?guid=4223

**ДЗЯРЖАЎНАЯ ЎСТАНОВА АДУКАЦЫІ «СЯРЭДНЯЯ ШКОЛА № 72 Г. МІНСКА»**

**Адрас:** 220046, Мінск, вул. Холмогорская, 59 (Партызанскі раён)

**Дырэктар:** Алена Станіславаўна Талмачова

**Тэлефон:** (017) 273-95-65

**E-mail**: sch72@minsk.edu.by

**Сайт:** http://sch72.minsk.edu.by/

**Моўны статус** паводле статута або афіцыйнай інфармацыі:

*19. Обучение и воспитание в Школе осуществляется на белорусском, русском языке согласно заявлениям законных представителей учащихся.*

http://sch72.minsk.edu.by/sm_full.aspx?guid=5633

**ДЗЯРЖАЎНАЯ ЎСТАНОВА АДУКАЦЫІ «СЯРЭДНЯЯ ШКОЛА № 110 Г. МІНСКА»**

**Адрас:** 220099, Мінск, вул. Брэсцкая, 66 (Кастрычніцкі раён)

**Дырэктар:** Інна Мікалаеўна Шчыгельская

**Тэлефон:** (017) 278-58-81

**E-mail**: sch110@minsk.edu.by

**Сайт:** http://sch110.minsk.edu.by/

**Моўны статус** паводле статута або афіцыйнай інфармацыі:

*3.3. Основными языками обучения и воспитания в учреждении являются белорусский и русский.*

http://sch110.minsk.edu.by/ru/main.aspx?guid=1811

**ДЗЯРЖАЎНАЯ ЎСТАНОВА АДУКАЦЫІ «СЯРЭДНЯЯ ШКОЛА № 180 Г. МІНСКА»**

**Адрас:** 220020, Мінск, вул. Радужная, 8/3 (Цэнтральны раён)

**Дырэктар:** Ганна Анатолеўна Астроўская

**Тэлефон:** (017) 250-10-50

**E-mail**: sch180@minsk.edu.by

**Сайт:** http://sch180.minsk.edu.by

**Моўны статус** паводле статута або афіцыйнай інфармацыі:

*3.2. Основными языками обучения и воспитания в учреждении и в УЗ «2-ая городская детская клиническая больница» являются русский и белорусский.*

http://sch180.minsk.edu.by/ru/sm.aspx?guid=1153

Спіс складзены сябрамі Канцылярыі ТБШ. Звесткі, пададзеныя ў спісе, узятыя з афіцыйных сайтаў навучальных устаноў па стане на люты 2013 г. Калі вы маеце дадатковыя звесткі ці ўдакладненні, лістуйце, калі ласка, на nastaunik.info@gmail.com

# АБВЕСТКІ

## Фонд імя Стэфана Баторыя: Праграма грантаў для Беларусі

*Заяўкі прымаюцца ўвесь час, разглядаюцца на працягу 3 месяцаў*

Мэта праграмы – падтрымка грамадзянскіх ініцыятываў, прысвечаных стварэнню адкрытага грамадства і падрыхтоўцы дэмакратычных зменаў у Беларусі.

Фонд падтрымлівае праекты, звязаныя з: абуджэннем грамадзянскай актыўнасці, развіццём самакіравання і самаарганізацыі (у тым ліку адукацыйныя і культурныя мерапрыемствы ды моладзевыя ініцыятывы); абаронай правоў чалавека, прававой дапамогай, барацьбой з дыскрымінацыяй, пашырэннем цярпімасці; правядзеннем незалежных даследаванняў і аналізу; пашырэннем доступу да інфармацыі, развіццём традыцыйных і сацыяльных медыяў.

*Падрабязней глядзіце на http://nastaunik.info/news/?id=7560*

## Творчасць не ведае межаў: Трансмежныя спаборніцтвы для школ

*Апошні тэрмін – 15 сакавіка 2013 г.*

Праграма трансмежага супрацоўніцтва Польшча – Беларусь – Украіна 2007 – 2013 запрашае школы, якія знаходзяцца на тэрыторыі праграмы, да ўдзелу ў акцыі па прасоўванні трансмежнай супрацы. Прыдумайце цікавыя міжнародныя гульні, сустрэньцеся з сябрамі з іншых краін ды паўдзельнічайце у фестывалі рэгіёнаў!

Кожная школа выбірае сваю каманду, запаўняе заяўку і падае яе. Арганізатары запросяць найлепшую каманду з кожнага рэгіёну. Усяго ў спаборніцтвах прымуць удзел 14 каманд – прадстаўнікоў тэрыторыі праграмы.

Каманды з Беларусі выбіраюцца прадстаўніцтвам агульнага тэхнічнага сакратарыята ў Брэсце.

*Падрабязней глядзіце на http://pl-by-ua.eu/create/index.php*

## ЕГУ: Дыстанцыйныя курсы для выкладчыкаў

*Сакавік – чэрвень, пачатак навучання паводле камплектавання груп*

Еўрапейскі гуманітарны ўніверсітэт набірае слухачоў на дыстанцыйныя курсы па павышэнні кваліфікацыі выкладчыкаў сярэдніх і вышэйшых навучальных устаноў:

- Асновы распрацоўкі мультымедыйных навучальных матэрыялаў для дыстанцыйных курсаў;
- Псіхалогія Інтэрнэта: тэхнікі эфектыўнага ўзаемадзеяння ў дыстанцыйным навучальным асяроддзі.
- Публічная палітыка ў эпоху Інтэрнэта
- Хто і як кіруе развіццём Інтэрнэта
- Лічбавыя медыі і грамадства
- Тэорыя і практыка аргументаванай дыскусіі
- Літоўская мова для пачаткоўцаў

Працягласць кожнага курса – 7 тыдняў. Кожны курс каштуе 60 еўра. Пасля паспяховага праходжання курсаў удзельнікі атрымліваць сертыфікат ЕГУ.

*Падрабязней глядзіце на http://nastaunik.info/news/?id=7546*

## Стыпендыі для беларускіх вучняў у United World Colleges

*Апошні тэрмін – 25 сакавіка 2013 г.*

United World Colleges абвясціў конкурс для беларускіх вучняў на атрыманне бясплатных стыпендый на навучанне ў каледжах Італіі і Галандыі.

Навучанне вядзецца на англійскай мове па сістэме International Bacalaureat. Тэрмін навучання – 2 гады. Прэтэндэнты мусяць мець 16 год на 1 верасня 2013 г.

На I тур трэба даслаць: эсэ на тэму «Маё любімае свята» (2 старонкі A4 на англійскай ці беларускай мовах); копію ведамасці паспяховасці за бягучы навучальны год; характарыстыку ад класнага кіраўніка; копіі грамат і дыпломаў, якія сведчаць пра грамадскую, творчую і спартыўную дзейнасць.

*Падрабязней глядзіце на http://uwcby.org/apply.htm*

## «Жывое права»: Юрыдычныя заняткі для для школьнікаў

Юрыдычная клініка БДЭУ прапануе школам супрацоўніцтва – правядзенне студэнтамі-юрыстамі заняткаў па праве для школьнікаў. Студэнты правядуць заняткі на прававую тэматыку з выкарыстаннем інтэрактыўных методык выкладання ў вашай школе, гімназіі, дзіцячай інтэрнатнай установе.

Падрабязней глядзіце на http://nastaunik.info/news/?id=7603

## Беларуская Палічка – да Дня роднай мовы

На сайце электроннай бібліятэкі «Беларуская Палічка» дадалося больш за 150 аўдыякніг і аўдыяспектакляў!

Народныя і аўтарскія казкі, класічная і сучасная літаратура, беларускія і замежныя аўтары, тэксты школьнай праграмы і радыёсерыялы ў фарматах mp3, ogg – на «Беларускай Палічцы».

*Падрабязней глядзіце на http://knihi.com/audyjoknihi.html*

## «Дзеткі па-беларуску»: Конкурс ад «Белсата»

*Апошні тэрмін – 25 сакавіка 2013 г.*

А вашае дзіця размаўляе па-беларуску? У Дзень роднай мовы «Белсат» распачынае конкурс «Дзеткі па-беларуску».

Здыміце відэа, як дзіця па-беларуску размаўляе, спявае, чытае вершык або бярэ ўдзел у тэатральнай пастаноўцы. Аўтар найлепшага відэароліку атрымае спадарожнікавую талерку, дзякуючы якой зможа глядзець «Белсат», а герой – прыемную неспадзяванку!

*Падрабязней глядзіце на http://belsat.eu/be/wiadomosci/a,12676,a-vashaie-dzitsia-razmauliaie-pabielarusku-konkurs.html*

## CEEP: Адукацыйна-культурная праграма ў ЗША для беларускіх школьнікаў

*Апошні тэрмін – 16 сакавіка 2013 г.*

Cultural and Educational Enrichment Project (CEEP) прадугледжвае пяць тыдняў побыту ў ЗША для вучняў старэйшых класаў з Беларусі.

Удзельнікаў чакае праграма, якая дасць уяўленне пра мясцовую супольнасць, штат і краіну; бізнэс-тыдзень на тэрыторыі ўніверсітэта; валанцёрская дзейнасць з прымаючай сям'ёй. Праграма пройдзе 2 ліпеня – 6 жніўня ў горадзе Эленсбург (штат Вашынгтон).

*Падрабязней глядзіце на http://nastaunik.info/news/?id=7483*

## Мінск: Бясплатныя заняткі для школьнікаў 7 – 10 класаў

*Арганізацыйны сход – 11 сакавіка 2013 г.*

Бясплатныя заняткі для школьнікаў 7 – 10 класаў па вуснай і пісьмовай беларускай мове з вядомымі філолагамі, а таксама па гісторыі са слыннымі гісторыкамі ў мінскай сядзібе Таварыства беларускай мовы (вул. Румянцава, 13, ст. метро «Плошча Перамогі»).

Арганізацыйны сход – 11 сакавіка (панядзелак). Пачатак: 17.30.

## Праграма малых грантаў амбасады ЗША

*Заяўкі прымаюцца на працягу 2013 г.*

Мэта праграмы малых грантаў амбасады ЗША – падтрымка развіцця грамадзянскай супольнасці.

Праграма зацікаўлена ў праектах, якія спрыяюць: грамадскаму дыялогу; ахове і падтрымцы грамадскіх інтарэсаў; сацыяльнаму развіццю і ўзмацненню мясцовых супольнасцяў; мясцоваму самакіраванню; інтэграцыі сацыяльна неабароненых груп насельніцтва; гендэрнай роўнасці; рэформам рынкавай эканомікі; захаванню культурнай і прыроднай спадчыны, у тым ліку вырашэнню экалагічных і чарнобыльскіх праблем.

Заяўкі прымаюцца ад зарэгістраваных беларускіх грамадскіх арганізацый.

*Падрабязней глядзіце на http://belarusian.minsk.usembassy.gov/small_grants.html*

## Фотаконкурс «Магія дзікай прыроды – 2013»

*Падвядзенне і абвяшчэнне вынікаў – 5 лістапада 2013 г.*

Сайт Birdwatch.by разам з выдавецкай ініцыятывай «Гарадзенская бібліятэка» абвяшчае фотаконкурс «Магія дзікай прыроды – 2013», прысвечаны здымкам беларускай прыроды. Фотаздымкі прымаюцца і ацэньваюцца ў чатырох намінацыях: «Магія дзікіх птушак», «Магія дзікіх жывёл», «Магія МакраСвету», «Магія краявідаў».

*Падрабязней глядзіце на http://birdwatch.by/news/5671*

## Конкурс грантаў для навучання ў казахскіх ВНУ

*Апошні тэрмін – 31 сакавіка 2013 г.*

Фонд Ержана Татышава абвяшчае конкурс адукацыйных грантаў 2013 года для выпускнікоў школаў і каледжаў з малазабяспечаных сем'яў, а таксама дзіцячых дамоў для атрымання ступені бакалаўра па фінансава-эканамічных спецыяльнасцях.

*Падрабязней глядзіце на http://www.tatishevfoundation.kz/programs/obrazovatelnye_granty/bakalavriat*

Настаўнік.інфо.
Інфармацыйна-метадычны бюлетэнь для настаўнікаў
Выдаецца ініцыятыўнай групай стваральнікаў сайта ***Nastaunik.info***
Адрас для дапісаў: ***nastaunik.info@gmail.com***
Наклад 200 асобнікаў